## АКТ 1. ЗОРАЧКІ

**Першая Зорка:**

– Зорачкі-сястрычкі, сон гэта ціява?
У нябёсах Зорка новая зазьзяла.
Новая, цудоўная і чароўна сьвеціць…

**Усе:**

– Дзе яна? Ня бачым.

**Першая Зорка:**

– Вось жа яна, дзеці!

**Другая Зорка:**

– Што гэта за зорка?

**Трэцяя:**

– Мы яе ня знаем.

**Другая:**

– Блізка адвячорак –
Месяц запытаем.
Бо дзядуля Месяц
Спачывае днём
У цяністым лесе
Пад імшыстым пнём.

**Трэцяя:**
– Сьпіць, адпачывае.
Ды затое ў ноч
Небам ён блукае,
Не схінае воч.

**Першая зорка:**
– Трэба яго клікаць,
Ён адкажа нам,
Бо мудрэц вялікі. –
Што за Зорка там?

**Другая:**
– Бяжым, ляцім за ім хутчэй.
Каб крочыў як мага шпарчэй.
Па Млечным шляху нацянькі.
Туды, дзе кветкай з дна ракі
На небе зорка расьцьвіла...

**Усе:**
– Той Зорцы – нашая хвала!

**Зьяўляецца Месяц:**

– Супакойцеся, мілыя дзеці!
Гэта зорка – адзіная ў сьвеце.

Узышла, расьцьвіла першы раз –
Не такая, як кожная з вас.

**Усе:**
– Не такая, як кожная з нас?!

**Трэцяя зорка:**
– А я? Няўжо з прыгажосьці
Я перад Ёй згубіла штосьці?
У срэбных строях стан павеўны...
І я хачу быць каралеўнай!

**Другая Зорка:**
– І я цудоўны маю бляск,
Як дыямэнт каштоўны,
А першай зоркаю ніяк
Ня стала я ўсё роўна...

**Месяц:**
– Цішэй, зайздросьніцы, цішэй!
Адна адной ня чуе...
Няма той зоркі прыгажэй.
Чаму? Распавяду я.



Дзе неба з чатырох дарог
На ўсходзе сходзіць з горкі
Сягоньня ўноч радзіўся Бог
У промнях гэтай Зоркі.

**Першая Зорка:**
– Як жа мы Езуса будзем вітаць,
Стрэціўшы неўзабаве?

**Месяц:**
– Боскай каронаю, німбам зьзяць
Вам у Ягонай славе!



## АКТ 2. ПАСТУШКІ.

**Мацей:**
– Але ж сягоньня й халадэча.
Мароз – аж гонтай дах страляе...
Цяпельца тут было б дарэчы.

**Стась:**
– Гэй, хлопцы, справа нас чакае.
Мікола, Юры, уставайце
І – ў лес, агню патрэбна ежа...

**Мікола** *(пазяхаючы)*:
– Які быў сон! Дагледзіць дайце,
Агню скармлю ўсю Белавежу!

**Юры:**
– Агонь галодны – я тым болей.
Ад жывата – пустое месца...

**Стась:**
– Што зробіш – то людская доля, –
Хто працу любіць – тому й есца.

**Юры:**
– Твая сьвіньня мой плот ня здужыць,
Хутчэй сабе зламае зубы...



**Стась:**
– Бядак! Баршчу чыгун адужаў,
Пасьля ўмалоў паўмісы бульбы,
Угаманіў гарнец гароху,
Умяў адзін патэльню сала,
Збаёдаў цэлы хлебны бохан
І не наеўся – енчыць: – Мала!

**Юры:**
– У мажным целе – добры дух.
Дурны харчуецца надзеяй.
А я сілкуюся за двух
І ласы кус не абміну,
Бо покуль тоўсты пахудзее –
Худы прасватае труну...

**Мацей:**
– Ну досыць спрэчак. Поўнач блізка
І холад косьці данімае
Хутчэй распальваем агніска.

**Юры:**
– Зьямо як сьлед і засьпяваем.

**Мікола:**
– А я свой сон распавяду.

**Стась:**
– Ды песьня – ўсё адна і тая ж:
Як цыган краў з ракі ваду...

**Мацей:**
– Вам жартаваць – што лапці плесьці.
А мо і праўда нам, сябры,
Бліжэй да вогнішча падсесьці
Ды засьпяваць...

**Стась:**
– Як тры бабры!

**Мацей:**
– Зноў за сваё бярэшся, Стась!

**Стась:**
– Ужо сьпяваю... Як карась...

Разам сьпяваюць:
Гэй, ты праца пастухова,
На жалейцы цэлы дзень
Граць задумлівым каровам
Ды хвалу нябёсам пець.



Сонца з нас вачэй ня зводзіць
Ветрык – сябра пастуху.
Шкода. Збаўца не прыходзіць
Вызваляць нас ад граху.

**Мікола:**
– Але ўжо досыць нам сьпяваць, –
Уславім Бога – ляжам спаць.

**Мацей:**
– Братоў нашых крэўных,
Што ў бітвах спачылі,
За род свой і волю каханай Радзімы –
Хай Бог не пакіне!

**Стась:**
– І ворагаў нашых,
Крывёю залітых,
Што сьмерць напаткалі
Сваю на чужыне –
Хай Бог не пакіне!

**Юры:**

– І нашыя душы,
Што з грэхам сябруюць –
Хай Бог не пакіне!

**Усе разам:**

– Пан Бог уратуе!

*Усе, акрамя Мацея, кладуцца спаць.*

**Мацей:**

– Жыцьцё, як дым,
Плыве маркотна,
Зьнікаюць дні, лятуць гады.
І па шляху у незваротнасьць
Узрост мінае малады.

Душа ў сьлязах, душа, як сьвечка,
Самотна плача па начох...
Маўчыць падзорная сінеча, –
Няўжо душу ня чуе Бог?

Сыйдзі, Найвышні, я чакаю
Твайго сьвятла з усіх дарог.
Вярні надзею, дай адхланьня
Душы збалелай, Хрысьце Бог!



*Гледзячы ў нябёсы:*

– Ці то пажар, ці зор залева?
Ці то сапраўдны боскі цуд?
Гарацць нябёсы, чутны сьпевы..
Хутчэй сяброў я пабуджу.

Юрась, Мікола, уставайце!
Начное сонца узышло.
Анёлы ў трубы громна граюць –
Такога зроду не было.

**Юры:**

– Няўжо то раньне ды сьняданак,
Які я толькі што прысьніў.

**Мікола:**

– То мне – нябогу – пакараньне,
Ледзь вочы змружыў – зноў: – Ня сьпі!

**Мацей:**

– Паверце мне – ў агні нябёсы!

**Юры:**

– А я ня ўгрэюся ніяк.

**Стась:**

– Эх, шкода, мы – не эскімосы,
То холад быў бы нам няўзнак.

**Мацей:**
– Усё жартуюць, лежабокі,
Мне ж не да жартаў тут зусім.

**Стась:**
– Як ясна. Сьвецяцца аблокі,
І залачае зорак жвір!

**Мікола:**
– Ну дзе, ну дзе тыя пажары,
Дзе тое сонца апаўноч?

**Юры:**
– Дзе птушкі – вогненныя хмары?

**Мацей:**
– Пратрыце, соні, свае вочы.

**Мікола:**
– Вой, праўда, Юры, то ня жарты.
Паглянь, паглянь ў гэты бок!

**Юры:**
– Які ж я дурань быў упарты –
Спаў, як сурок – а сьмерць за крок.

**Стась:**

– Што робіцца? Ці гэта чары?
Ці гэта нечы злы праклён?
Анёлы ў высях, ці пачвары?
То ява ўсё, ці толькі сон?

**Юры:**

– Гэй, аьсцярожней, Стась, бамбіза!
Нагой ня боўтай у гляку...
Калі й напраўду згуба блізка, –
Не прападаць жа малаку.

**Стась:**

– А гэтаму – адзін турбот,
Каб поўным быў заўжды жывот.

**Мацей:**

– Ад страху – мову заняло,
А вушы ловяць песьні , граньне...
О Маці Боская, Анёл
Сыходзіць з неба ў зорным зьзяньні...



**Анёл:**
– Ганіце страх свой, пастухі,
Нібы авечы статак логам...
Пачуйце сьветлую з навін
Аб нараджэньні Сына-Бога!

Сьпяшайце ў горад Бэтлеем,
Вам першым выпала, гарэзы,
Пабачыць ясьлі, што ў хляве,
Дзе сьпіць сьвяты дзіцёнак Езус!

**Мацей:**
– Хутчэй да Бога на паклон!
Ды без гасцінца йсьці няёмка.

**Стась:**
– Я сушаных вазьму грыбоў.

**Мікола:**
– Я рыбы пакладу ў катомку.

**Мацей:**
– Бяру ягнятка я з сабой.
І тонкага радна сувой.



**Юры:**
– А я кадобчык мёду
Вазьму не паскуплюся.
Лепш сам памру галодным –
З дзіцяткам падзялюся...

**Мацей:**
– То, браце, велькая ахвяра...
Але, пара ісьці ў дарогу!

**Стась:**
– А ідучы – кадрылю ўдарым –
Пацешым танцам Пана Бога.



## АКТ 3. КАРОЛЬ ІРАД

**Зорнік:**
– Усіх, слабых на нервы
Прашу пакінуць залу!
Зыход наступнай сцэны
Жахлівы і лятальны.
Памінкі пасьля піру,

А заміж трона – плаха.
Я чую крокі – Ірад! –
Хаваюся ад страху...

**Ірад:**
– Я – Ірад. Тут я валадару.
Жыву – купаюся ў раскошы.
Дарую літасьць і караю.
Мая улада – меч і грошы.

На галаве маёй – карона,
На целе – залатыя строі.
Я не аддам палац і трон свой.

**Д'ябал:**
– Апчхі!



**Ірад:**
– Гэй, варта! – ворагі! Да зброі!
Няўжо паснулі усе дазваньня?

**Шляхціц:**
– Я тут як тут, найясны пане!

**Ірад:**
– Няйначай зноў заснуў на варце?
А нехта чхнуў на панскі трон.
Зьнявага нашае уладзе.
А хто віноўца?

**Д'ябал:**
– Можа ён!...*(паказвае на Шляхціца)*

**Шляхціц:**
– Ды я... Нідзе, ніяк, ніколі.
Я нават дыхаю праз раз.
За караля свайго гатовы...

**Ірад:**
– Пайшоў да д'ябла,
Прэч ад нас.

**Шляхціц:**
– А чорт за тронам,
Вось дарэчы,
Ня трэба нікуды хадзіць...

**Ірад:**
– Сыдзі з вачэй, а то па плечы
Аддам загад – укараціць.

**Другі шляхціц:**
– Здалёку трое пілігрымаў
У твой палац, Кароль, прыйшлі.

**Ірад:**
– Дзе тыя трое?

**Шляхціц:**
– За дзьвярыма.

**Ірад:**
– Ці маюць зброю?

**Шляхціц:**
– Тры кіі.

**Ірад:**
– Тады пусьці іх. Хай заходзяць.



**Шляхціц:**
– Хай Бог бароніць Караля!

**Ірад:**
– Ну і баран, няўжо зашкодзіць
Жаўнераў так – шасьці каля...

**Мудрацы:**
– Мы – тры каралі з Усходу –
Вітаем цябе, Уладар!
Цябе і тваю гасподу:
– Каспар.
– Мэльхіёр.
– Бальтазар.

**Ірад:**
– А хто вам казаў дарогу?
Усход жа – не за пагоркам.

**Каспар:**
– Нам шлях, бласлаўлёны Богам,
Паказвала дзіва-Зорка.

**Ірад:**
– Якая там дзіва-Зорка?
Яны ўсе даўно зьлічоны.

**Мэльхіёр:**
– Навінай скрозь цемры морак
Сьвятло яе – Бог народжан!

**Бальтазар:**
– Кароль нарадзіўся новы,
Ён сьвету прынёс збаўленьне.

**Ірад:**
– Схаваная ў вашых словах
Пагроза майму праўленьню.
Бо пэўна ён мае зброю
І войскам вялікім дужы?

**Каспар:**
– Пагрозы тваёй кароне
Няма. Езус – пастыр душаў.

**Ірад да шляхціца:**
– Ці чуў ты аб гэтым цудзе?
Што ў горадзе кажуць людзі?

**Шляхціц:**
– Збылося прароцтва сьвятога Міхея
Дабро адалела сусьветнае зло.



Уславяць народы маленькі
Бэтлеем,
Дзе Збаўца знайшоў свой
ухвалены дом.
У душы заблудных ён верне надзею,
Ад пекла ўратуе мільёны людзей,
Бярэма грахоў на сябе ўскладзе Ён,
І ўсьлед за сабою ў Рай павядзе...

**Ірад:**
– Панове! Будзем ладзіць пір?
Чаму дасюль пустыя шклянкі?

**Каспар:**
– Хай за сталом пануе Мір.
Мы – ў Бэтлеем! Не да гулянкі.

**Ірад:**
– Ідзіце з Богам. Я адзін
За трох сягоньня папірую...

*да шляхціца:*
– Гэй ты, асёл, цурбан, крэтын,
Прароцтвы, плёткі, дэкляруем?
А я падкоп пад трон адчуў,
Вядзе ён проста з Бэтлеема.

Чаго стаіш, нібыта слуп,
Давай, рабі хутчэй што-небудзь.

**Шляхціц:**

– Слухаю пана! Адной нагой тут,
Ну а другою даўно ў Бэтлееме.

**Д’ябал:**

– Трэба наладзіць там – “кіндэр капут”,
Каб ні адное дзіця не ўцалела.
Лазьню крывавую вытапіць час...
Што галава без дзяржаўнай кароны...

**Ірад:**

– Дзякуй, Люцыпар, парада як раз,
Цела маё стала часткаю трона!

*да шляхціца:*

– Не паўтараю я двойчы загад.

**Шляхціц:**

– Слухаю пана, служыць яму рад!





**Шляхціц вяртаецца:**

– Справа аброблена. Трон за табой.
У Бэтлееме ніводнага піску!

*Зьяўляецца Сьмерць.*

**Сьмерць:**

– Ну а цяпер пабалакай са мной...
Пэўна ня думаў, што я гэтак блізка?

**Ірад:**

– Касой махае акурат –
Касьба ў разгары сенакосу.
Старая, б’юся аб заклад,
Ты не кляпала сёньня косу...

**Сьмерць:**

– Табе за ўсе твае грахі
У пекле месца, не на троне.
Заклад прыняты: – Ірад, зьгінь!
Ха - ха - ха - ха!
Без галавы, зато ў кароне!

**Д'ябал:**

– Вось і фінал даўночаканы,
Цяпер у пекла разам пойдзем.

*да шляхціца:*

– А ты, слуга, – усьлед за панам –
Кацёл вялікі – месца хопіць.

## АКТ 4. УШАНАВАНЬНЕ

**Першы анёл:**
– У Бэтлееме, у звычайнай стайні,
Калі паўночы сьвет белы выстыў,
Быў нараджоны найсьветлай Паннай
Дзіцятка-хлопчык – наш Езус Хрыстус.

У Бэтлееме ў звычайнай стайні,
Калі навокал нідзе ні гуку,
Дзіцятка Езус ляжаў у яськлях
І да матулі працягваў рукі.

**Другі анёл:**
– Калі Пан Езус нарадзіўся,
Лясы і рэкі, дол і горы
Раптоўна ў змроку асьвяціла
Цудоўным зьзяньнем лілея-зорка.

**Марыя:**
– Няма найшчасьлівей на сьвеце ад маці,
Душа мая сёньня сьпявае ў мілосьці,
Гарну да грудзей сваіх тварык дзіцяці –
Сынок мой – часьцінка нябеснае плоці.



**Юзэф:**

– Гэта вышэй за маё разуменьне –
Бог-чалавек спачывае на сене,
Неба пакінуў і стаў немаўляткам.
Будзе ў сямьі нашай Ён гадавацца.

Сэрцу – расчуленым чоўнам любові.
Доўга на хвалях пяшчоты гайдацца...
Божа, дай розуму, каб усьвядоміць,
Я – апякун твой, карміцель, дарадца.

**Марыя сьпявае:**

– Сьпі, сыночак, люлі, люлі.

У сьвятую гэту ночку
Месяц хай Твой сон вартуе
Люлі, люлі, змружвай вочкі.
Сьпі, сыночак, люлі, люлі.

Ветрык сьпіць, зьвяры і птушкі.
Хай анёл Твой сон затуліць.
Змружвай вочкі, люлі, люлі.
Сьпі сыночак, люлі, люлі.



Звон калядны спаць паклаўся...
Дрэвы ў воблаках заснулі.
Ты адзін ня спаць застаўся.
Змружвай вочкі, люлі, люлі.
Люлі,люлі, сьпі сыночак.

**Трэці анёл:**

– Перш чым прыйдуць пілігрымы
Пакланіцца нізка Пану,
Кожны з нас сказаць павінны,
Як ён Езусу адданы.

**Чацьвёрты анёл:**

– Езус Хрыстус без апраткі,
А у стайні халаднее...
Ножкі зьмерзьлі у дзіцяткі –
Я дыханьнем іх сагрэю.

**Пяты анёл:**

– Езус Хрыстус без апраткі
А у стайні халаднее.
Ручкі зьмерзьлі у дзіцяткі –
Я іх крыламі сагрэю.

**Шосты анёл:**
– Гэй, сябры мае, анёлкі!
Мне, прызнацца, нават сорам –
Нас тут цэлая суполка,
А пакуль ня пелі хорам.

**Сёмы анёл:**
– Хай, гучаць стозвонным рэхам
Словы, што ў вяках пачуюць...
Сыну Бога, чалавеку –

*Усе разам:*
– Слава! Слава! Альлелюя!

*Уваходзяць пастушкі.*

**Мацей:**
– Станем, браты, каля ясьляў у рад,
Схілім ў нізкім паклоне калені...

**Юзэф:**
– Вам, пастушкі, невыказна я рад –
Першым людзям каля боскай пасьцелі.

**Стась:**
– Прымі, Марыя, сьціплыя дары,
Якія мы для Езуса прынесьлі:



**Мікола:**
– Катомку рыбы,

**Стась:**
– Белыя грыбы.

**Мацей:**
– Ягнятка, – каб шкарпэткі Пану плесьці.

**Юры:**
– Кадобчык мёду, каб дзіця спраўнела.

**Мацей:**
– Сувой радна – малому на пялюшкі.

**Стась:**
– І усё гэта прывезьлі на асьле мы.

**Мікола:**
– Крыху упартую, дабрачую жывёлу.
Мы Езусу пакінем для забавы.
У гульнях ослік жвавы і вясёлы,
А пры нагодзе згодзіцца для справы.

**Мацей сьпявае:**
– Ростам – з тую рукавічку
Сьпіць малеча – носік сьвішча.

Як гарбатнічак на ранку,
Калі прыйдзе час сьнядынку.

Калі б быў я гэткі самы
Валадар зямлі і неба,
Нізавошта не схацеў бы
У ясьлях ляжаць дзіравых.

Пойдзем з намі у хаціну,
Там ёсьць печ і цёплы ложак.
Шкода нам цябе тут кідаць,
Пойдзем з намі, мілы Божа.

**Юзэф:**

– Дзякуй, дзякуй вам найвелькі,
Пастушкі, за падарункі.
Паглядзіце, як маленькі,
Вам сьмяецца, цягне ручкі.

Вашы жарты і калядкі
Нам прыйшліся да спадобы.
Езус нават б'е у ладкі,
Каб заўжды было так добра.



**Анёл:**

– У стайню ўваходзяць
аж тры каралі.
І кожны трымае для Пана дары.

*Каралі сьпяваюць:*

– Тры каралі пачулі цудоўную з навін,
Што нарадзіўся Езус,
І ў Бэтлеем пайшлі.

*Прыпеў:* Так, так, так

Нялёгкім быў той шлях,
Але чакаў нас Езус
На сене у ясьлях.

Тры каралі сьпяшалі
На белых вярблюдах
Паўсюль палац шукалі,
Дзе вышай неба дах.

*Прыпеў той самы.*

А ўбачылі маленькі
Стары дзіравы хлеў...
Кароны ад зьдзіўленьня
Пападалі на сьнег.

**Каралі:**

– Вітай нас, Божае дзіця!
Мы абыйшлі нямала земляў,
Каб адалець нялёгкі шлях
З Усходу аж да Бэтлеема.

**Каспар:**

– Праз пушчы, праз рэкі, праз гор агароджу
Нас клікала Зорка, што сьвеціць над стайняй.
Цябе мы шукалі ў палацы прыгожым,
Дзе рыцары варту трымаюць на пляцы.
Але у палацы, дзе пір і гуляньне,
Анёльскага сьпеву ня чутна дазваньня.
Бог выбраў ня хорам і цёплае ложа,
А бедную стайню каля раздарожжа.

**Мэльхіёр:**

– Тут заміж рыцараў пагрозных,
Заміж пярын і габеленаў
Стары драўляны хлеў марозны
Ды нейкі абярэмак сена.



**Каспар:**

– Таму за словам Мэльхіёра
Табе – майму Валадару,
З паклонам нізкім і пакорай
Я гэта золата дару.

**Мэльхіёр:**

– Схавана ў занядбанай стайні
І слава боская і ўлада.
Дазволь і мне, найвышні Пане,
Да ног Тваіх пакласьці ладан.

**Бальтазар:**

– Сьвятую веру ў боскасьць слова
З сабой да дому забяру я.
Табе ж – настаўнік мой духоўны,
Алей духмяны ахвярую.

**Марыя:**

– О дзякуй вам, тры каралі,
За падарункі, ласку, сьпевы,
За дабрыню хай Бог дае вам
Жыцьцё у шчасьці на зямлі.



**Юзэф:**

– Так, дабрыня ва ўсе часы
Сярод людзей была ў пашане...
– Марыя, дзетак галасы
З ўсіх бакоў чуваць ля стайні.

**Марыя:**

– Няхай увойдуць. Запрашай іх,
Маленькі Езус будзе рады,
Хоць не палац у нас, а стайня,
Але Каляды – ёсьць Каляды.

**Дзеці:**

– Па зімніх, ахутаных сьнегам
сьцяжынках,
Па рэчках, зашклёных марозам
калядным,
Сюды ў Бэтлеем здалячыні прыйшлі мы,
Каб Езуса славіць, нябеснага Пана.

**Першае дзіця:**

– Мы дзеці малыя, мы скарбаў ня маем,
Ды Езуса добрага моцна кахаем.

**Другое дзіця:**

– Але не прынята з рукамі пустымі
Прыходзіць у хату, дзе ладзяць радзіны.
Мы ведаем – Езус з усьмешкаю прыме
Усё, што яму мы прынесьлі ў даніну.

**Першае дзіця:**

– Ад нас ён багата сягоньня пачуе
І песень, і казак, і вершаў прачулых.

**Пірат:**

– Дзе сонечны экватар
І айсбергі да неба,
Я марыў стаць піратам
І жыць з чужога хлеба.

Але пачуў навіну,
Што нарадзіўся Езус,
І злую мару кінуў –
Адразу падабрэў я.

Лепш стану капітанам
І Хрыстуса імя
На ўсёй Зямлі праслаўлю –
Віват Яму! Віват!



**Трэцяе дзіця:**

– Мы Езусу малому,
Каб Ён не сумаваў,
Прынесьлі сёньня з дому
Шмат цацак і забаў.

Тут мішкі, лялькі, кніжкі,
Сабачка, кот, жырафа.
Канькі ёсьць, санкі, лыжы
І нават чарапаха!

**Лявоніха сьпявае:**

– Я Лявоніха маладая
Нос – кірпаты. Шчокі – ружай.
Жыву сабе, ані дбаю
За Лявонам добрым мужам.

**Лявон сьпявае:**

– Я з Лявоніхай сваёю
Танчу летам і зімою.
Не стаіцца нам і тут –
Эх, раздайся ўшыркі кут!

Топну я адной нагою,
А затым – нагой другою.
Стане Езус падрастаць –
Будзе з намі танцаваць.

**Доктарка:**

– У белым халаце і белай хусьцінцы
На Хрыстуса ў яcьлях хачу паглядзець,
Баюся, каб Езус наш не застудзіўся,
Ня бачыла зроду я дзетак жвавей.

Бо сена, вядома, зусім не пярына
Аднак беражонага Бог беражэ.
Марыі пакіну я тры асьпірынкі.
Каб Хрыстус, дзіцятка яе, не хварэў.

**Японка:**

– Праз два акіяны і некалькі мораў
Плыла, мілы Божа, я ў твой сьціплы
хорам.
Плыла ў надзеі цябе папрасіць
Краіну народзінаў Сонца любіць.

Японія – сьветлы і радасны край,
Дзе Езуса любяць, шануюць, чакаюць.
Куды на вадзе пралягае дарога.
Там кожнае сэрца адкрыта для Бога.



**Беларус:**

– А я з таго краю, дзе белыя гусі
Губляюць пярынкі між промняў аеру...
О, Божа, у сэрца маёй Беларусі
Вярні сваёй сілай: Каханьне і Веру!

Каханьне і Вера – яны уратуюць!
Каханьне і Вера – адродзяць народ мой!
Каханьне і Веру, о Езус, даруй нам!
Каханьне і Веру – жыцьцё й
несьмяротнасьць!

**Юзэф:**

– Дзякуй, дзеткі, вам сардэчны,
Хай вас Езус уратуе.
Столькі песень, жартаў, вершаў
Мы павек яшчэ ня чулі.

**Марыя:**

– Дзякуй вам, вялікі госьці.
За дары і ласку.
Столькі танцаў, весялосьці,
Бачу першы раз я.



Шкода – трэба разьвітацца,
Мружыць сын мой вочкі...

**Дзеці:**

– Так, пара дамоў вяртацца.
Хрысьце, – Добрай ночы!!!

*1994*

КАНЕЦ



